# Маладзёвы весьнік

№3(3) Кастрычнік 1997 Выданьне Маладога Фронту


## ВАСІЛЬ БЫКАЎ

НАШ ДОМ-БЕЛАРУСЬ!

# СЬЦЯНА

**У вас ёсьць шанец падпісацца на забароненую сёньняшнім рэжымам кнігу прозы Васіля Быкава "Сьцяна". Гэтае выданьне рыхтавалася да выхаду ў дзяржаўным выдавецтве, але лукашысцкі рэжым спыніў гэтую працу. Мяркуецца, што яна выйдзе ў сьвет у канцы кастрычніка - пачатку лістапада сёлета. Жадаючым набыць кнігу зьвяртацца праз пошту: 220085, Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч, а таксама на тэлефон (017) 231-04-08 у працоўны час.**



**Будзь разам з намі!**

## СЯДЗІЦЬ ЗА ТОЕ, ШТО ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ

*Немагчыма цягнецца час,*
*Быццам год, тыя пяць хвілін.*
*Ты ляжыш, дзе драўляны прас*
*І аб доме, сям'і ўспамін.*
*Тут чатыры сьцяны і пол,*
*І ледзь бачна дзень ці ноч.*
*Ты ляжыш і глядзіш наўкол.*
*Надакучыць — ўставай і крач.*



Аляксей Шыдлоўскі ўжо больш за месяц сядзіць за кратамі Жодзінскага СІЗО толькі за тое, што **ЁН ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ**

*Прынясуць паесьці — не бяры,*
*Бо Радзіма больш, чым жыцьцё.*
*Не збаяцца тае пары,*
*Калі ўпадзеш у небыцьцё.*
*Немагчыма цягнецца час,*
*Быццам год тыя пяць хвілін,*
*Ты ляжыш, дзе драўляны прас*
*І аб ёй увесь час успамін.*

**Гэты верш Аляксей напісаў падчас галадоўкі у СІЗО, яшчэ тады, калі сядзеў дзесяць сутак за "Беларусь у Эўропу - 2"**

# РТР. “Совершенно по-свински”

Праграма РТР “Совершенно секретно” пачынае ўвасабляць новыя прынцыпы агляду сытуацыі асабліва кардынальна. У сваёй перадачы сп. Баравік засьведчыў поўную незацікаўленасьць у падтрымцы беларускае дэмакратыі, акрэсьліў пазыцыю лукашэнкі па большасьці пытаньняў як станоўчую, што было ўспрынята тут даволі дзіўна. Зянон Пазьняк таксама быў прадстаўлены Баравікам далёка не паважным лідэрам, падчас перадачы на яго было выліта шмат гразі. У прыватнасьці, вядучы ў чарговы раз паведаміў гледачам знакамітую байку “Пазьняк у кайзэра служыў”, але ў найноўшае інтэрпрэтацыі. Аказалася, *што бацька Зянона Станіслававіча, чалавек, які змагаўся з фашызмам на Фронце й загінуў у 1944 годзе, быў супрацоўнікам нямецкае паліцыі і ледзь не камандаваў расправаю над мірнымі жыхарамі.* Чарговая бессаромная хлусьня ёсьць чарговым сьведчаньнем бязьмежнага сьвінства расейскіх паслугачоў ГБ СССР. Як казалі тыя ж паліцаі, “Русіш швайн”; - і, між іншым, мелі рацыю. Кіраўніцтва БНФ “Адраджэньне” даслала на РТР афіцыйную заяву з абурэньнем, але абсалютна відавочна: са сьвінтусамі трэба па-сьвінску. У лыч.

# Пяршак па-лукашэнкаўску,

***або як Беларусь пераганяюць у расейскі эфір мясцовага разьліву***

Прэзыдэнт лукашэнка ўсё больш увагі надае ўдзелу ў палітычных баталіях расейскіх дзялкоў і папулістых. Расейская тэлевізія пакрысе мяняе накірунак асьвятленьня палітычных падзеяў на Беларусі. Цяпер лукашэнка спрабуе выйсьці на прамы эфір адразу некалькіх уплывовых тэлеканалаў расеі. Ён мае значную папулярнасьць менавіта ў правінцыйнай глыбінцы расейскай фэдэрацыі, таму ўсе ягоныя памкненьні прыдбаць патэнцыйны электарат будуць ськіваваныя туды. Прэзыдэнт, відаць, гатовы ахвяраваць усімі сродкамі й каштоўнасьцямі нашае краіны дзеля дасягненьня гэтае мэты, бо далейшыя ягоныя пляны сыходзяць да атрыманьня “шапкі Манамаха”. На аплату тэлеэфіру мусяць пусьціць прадпрыемствы перапрацоўчае й зборачнае прамысловасьці, гонар нашае індустрыі. Цяпер знайшліся й зацікаўленыя бакі зь ліку расейскіх манапалістых над тэлекампаніямі рэгіянальнага вяшчаньня. Сярод іх “РосБелНефть”, “Росвооружение”, “Лукойл”, “СлавНефть” ды іншыя.

Усе расейскія капіталістыя будуць мець неабмежаваныя магчымасьці дзеля перавытворчасьці нафты, мэталяў ды іншае сыравіны, калі выкупяць нашыя заводы. Лукашэнка хоча акурат гэткім шляхам акупаваць мясцовы расейскі тэлеэфір. Яму зараз, як ніколі раней, патрабуецца магчымасьць укараненьня сваёй прапаганды сярод працоўных і сялянаў Яраслаўлю, Ліпецку, Саратава, Новасібірску...

Расейская палітычная эліта не толькі ня спрыяе, але й супраціўляецца напаўзаньню лукашызму. Нават мэр масквы Ю.Лужкоў, адзін з найактыўнейшых інтэгратараў, перастаў выступаць на карысьць нашага дыктатара. Запраўды, вывучэньне вынікаў сацыялягічных апытаньняў у расеі адкрыта сьведчыць пра сымпатыі вялікай колькасьці грамадзянаў да лукашэнкі. Гэта прымушае тамтэйшы эстэблішмэнт весьці асьцярожную барацьбу зь ім.

Папярэднія падзеі “інтэграцыйнага працэсу” паказалі, што лукашэнка ўжо зараз мае моцную апазыцыю сярод расейскіх палітыкаў. Можна заўважыць таксама актыўнае супроцьдзеяньне ягонай папулізацыі ў шэрагах ліберальна-цэнтрысцкіх партыяў. У Адміністрацыі Барыса Ельцына знайшліся разумныя людзі, якія здолелі перашкодзіць вызыту лукашэнкі ў Ліпецк ды Яраслаўль. Цешыць тое, што трывалае гледзішча на канфлікт з Паўлам Шараметам і бюро ГРТ дэманструе прэсавы сакратар Ураду С.Ястржэмбскі. Дарэчы, акцыя зрыву наведаньня Ліпецкай губэрні лукашэнкам адбывалася не без удзелу вышэйўзгаданае пэрсоны. Цікава, якім чынам адрэагуюць на спробы прэзыдэнта Беларусі захапіць эфір на расейскіх рэгіянальных тэлеканалах фінансавыя групы, якія дзейнічаюць у зьвязку зь віцэ-прэм`ерам А.Чубайсам.

Зрэшты, нас увогуле ня ўразілі мэтады, якія выкарыстоўвае лукашэнка, каб прыняць уладу над усходняй імпэрыяй. Хай займаецца. Тым горш будзе для расеі.

***Падрыхтаваў Раман Кавальчук***

*Малады Фронт запрашае да супрацоўніцтва маладых журналістаў.
Гарантуем удзячнасьць нашчадкаў.
Штопанядзелак, штосераду а 18.30 на Управе БНФ (Варвашэні, 8) або па тэл. 233-50-12.
Спытаць Цімоха.*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ АЛЬБО СЬМЕРЦЬ !

*... А што ня возьмеце сягоньня,*
*Таго і заўтра вам ня ўзяць...*
*Я.Купала*



Мы — маладыя. І гэтым усё сказана. Навошта жыць спакойна і нецікава, калі можна жыць неспакойна і цікава?

А тым больш, калі нейкі лысы й вусаты самазванец заяўляе, што ён цар і Бог. Гэтая пачвара хоча, каб мы жылі так, як ён укажа! Ён хоча загнаць моладзь у хамут. Такія намаганьні выклікаюць толькі ўсьмешку вартую жалю — такі стары, а розуму не нажыў. Ды ўжо, баюся, і не нажыве.

Добра, пакінем у спакоі хворага на галаву старога "чалавека" і пяройдзем да пытаньняў больш канкрэтных.

Нашая моладзь волі бязумоўна не бачыла цалкам, але хаця б адчула яе пах. А пах волі — мацнейшы за самы моцны наркотык. Пах волі можна параўнаць з глытком сьвежага паветра пасьля таго, як вы тыдзень дыхалі трупным смуродам.

І гэты вусаты інсэкт спрабуе зноўку засунуць нас у сьмярдзючую дзірку, яшчэ больш крутую за тую, якой быў эсэсэсэр?!

Што адкажа на гэта любы нармалёвы малады чалавек? Адкажа проста, па-японску: "накася — выкусі!", і прадэманструе пры гэтым якую-небудзь штуковіну.

Мала таго, правільна было сказана: кожны, хто махаў дубцом падчас разгону дэманстрацыяў, падпісаў сабе прысуд. Прысуд, таксама падпісалі сабе кіраўнікі КПССу, каты з НКУС-МДБ-КДБ, тыя, хто вінаваты ў Чарнобыльскай трагедыі і шмат-шмат які гнюс, бруд, які напоўз на нашую зямлю з усходу.

Памылка адраджэнцаў канца 80-х, пачатку 90-х была ў тым, што яны пакінулі ворага ў сваім тыле, ня зьнішчылі яго. Яны даравалі ўсялякім чырвоным і падчырвонцам, вось тыя і павылазілі. Мала таго, дык яны яшчэ і сталі карычневатымі.

Але моладзі ўласьціва самаачышчацца. І яна ачысьціць Беларусь ад гнюсу.

І ня трэба глядзець назад, на тых, хто баіцца, ці на прыстасаванцаў.

Тыя, хто баіцца, аднойчы самі падохнуць ад свайго ж страху. Дый навошта жыць, і ўсё жыцьцё баяцца? Лягчэй ўзяць ды павесіцца.

Тыя, хто кажа, што пражыве пры любой уладзе, будуць, прабачце, лізаць ёй адно месца ўсё сваё жыцьцё. Ды так і памруць зь ліслівай усьмешкай на твары.

Незайздросны лёс.

Нашто на іх глядзець? Яны народжаныя поўзаць, і ніколі ім ня зьведаць вольнага неба.

Ты ж народжаны лётаць. Разгарні свае крылы, бо занямелі ўжо, падымайся над Радзімай... І не забывай, што ў цябе таксама ёсьць голас.

Далучайся да бясспрэчна лепшай часткі моладзі — да сапраўдных герояў вулічнага змаганьня. І нічога ня бойся. Бо заўсёды перамагае той, хто не баіцца і заўсёды правы той, хто бароніць Бацькаўшчыну.

Хачу папярэдзіць усіх гэтых пачвараў — помста маладых будзе жахлівай. Для вас, панове, хутка ўсё будзе скончана. Зь гісторыі відаць, што ў моладзі ніколі не было жалю да сваіх катаў. Няма яго і ў нас! Хутка зямля загарыцца пад вашымі нагамі, і нідзе не знойдзеце вы паратунку! Ды што хутка, паглядзіце — яна ўжо дыміцца. Наш суд будзе бязьлітасным і хуткім.

Маладыя выбралі свой шлях — Незалежнасьць альбо сьмерць!



І гучыць рэха ў беларускіх лясох, нясецца над закутай у кайданы Беларусяй — Незалежнасьць альбо сьмерць!

І — Жыве Беларусь!

**Яўген Скочка**
**намесьнік старшыні**
**Маладога Фронту.**



# МОЙ МЕНСК

***Мінск - сталіца РБ. Сталіцай Беларускае Рэспублікі будзе Менск.***

Калі ідзеш па галоўным горадзе краіны, воляй-няволяй думаеш пра лёс гэтага месца, пра яго назву, гараджан, пра старую Нямігу... Бязумоўна, я магу ня мець рацыі, але неяк няёмка называць мой горад Менскам, бо гэта, прынамсі для мяне, зьдзек зь яго разбураных храмаў, старое ратушы, Нямігі, зь месьцічаў. Я іду па праспэкце Скарыны; мінаю McDonalds, ГУМ, КДБ, Паштамт, нарэшце я на плошчы Леніна, прабачце, зноўку няёмка зваць яе плошчаю Незалежнасьці, бо гэта для мяне таксама трохі зьдзек нават з самога сябе, бо няма ў РБ незалежнасьці, “няма”. Нядаўна пафарбавалі будынак на рагу Камсамольскай і Скарыны, пафарбавалі Нацбанк, паклалі перад ім дарагую





плітку... “Квітней, Беларусь”, “Жыве Беларусь” - гаворым мы, церпячы зьдзек...

Я іду на пляц Волі. Там я вольны, гледзячы на амаль адноўленую катэдру, але і там чую зьдзек, гледзячы на руіны старога месца, майго Менска, на маіх вачох руйнуюць Менск - зьдзекуюцца зь мяне, з нас усіх. Вось і мітрапаліту Філарэту не даспадобы дом побач з саборам - зьнесьлі. Цяпер там руіны, абгароджаныя плотам. Чытаю на ім зафарбаваны надпіс “Маскалі забілі Бога”: чытаю і думаю, што пэўна меў рацыю той, хто гэта пісаў. Аднавілі крыж прападобнай Эфрасіньні - урачыста асьвяцілі, узьвіжалі, паклалі ў царкве Спаса ў Полацку, пагаварылі і ўсё сьціхае, бы ня было, а дом так і не аднавілі...

Ці гэта я сплю? Не - я іду па Мінску, але веру, што прыйдзе й Менску час. Ураньні я ўстану, выйду ў сквер, зірну ўверх - убачу ўдалечыні наш беларускі сьцяг над былой рэзыдэнцыяй, адыйдзе ў мінулае Мінск, я буду



ўжо ў Менску - у сталіцы Беларускае Рэспублікі. Я пайду на пляц Волі - у стары Менск, адноўлены, велічны і прыгожы.

Гэта толькі мроі? Мо гэта й так, але стаў жа Калінін Цьвер'ю, Ленінград Пецярбургам, а Вільня, што б ні казалі, ніколі ня будзе Вільнюсам. Дык чым жа горшы Мінск, няўжо ён ня мае права адзначыць свой 950-ы, а мо і 1000-ы юбілей у сапраўдным, менскім абліччы? Мае, і так будзе!

Будзьце пэўныя.

**ВІКТАР МУХІН**

***навучэнец Беларускага гуманітарнага ліцэя***

# Кроніка падзеяў

**26** **ліпеня** звыш пяці тысячаў чалавек узяло ўдзел у шэсьці і мітынгу, прысьвечаным Дню Незалежнасьці. За колькі гадзінаў да пачатку акцыі у штаб-кватэры БНФ "Адраджэньне" быў праведзены ператрус. Як стала вядома, міліцыянты шукалі "прадметы, якія могуць быць выкарыстаныя дэманстрантамі ў якасьці халоднай зброі". Нічога падобнага яны не знайшлі, таму вырашылі прычапіцца да некалькіх транспарантаў і да дрэўкаў для сьцягоў. Склаўшы пратакол вобыску, яны, задаволеныя вынікамі, пакінулі штаб-кватэру. Удзельнікі сьвяткаваньня сабраліся на плошчы Якуба Коласа і праз 15-20 хвілін калёна выйшла на праспэкт і рушыла ў бок пл. Перамогі. Ніякіх канфліктаў ці сутычак паміж дэманстрантамі й міліцыянтамі ў гэты раз не адбылося, а некалькі маладых людзей, выступаючы супраць палітыкі расейскага кіраўніцтва, спалілі два дзяржаўных сьцяга Расеі. Мітынг адбыўся ля Опэрнага тэатру. Таксама там плянавалася правесьці канцэрт, але гэта зрабіць не ўдалося з-за адсутнасьці электраэнэргіі, якая чамусьці раптоўна зьнікла ў тэатры. Сам мітынг скончыўся спальваньнем вялікага павука, які чымсьці нагадваў луку і сымбалізаваў сабой дыктатуру. Пасьля акцыі быў затрыманы намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне" Станіслаў Гусак, якога ноч трымалі ў СІЗО, пасьля завезьлі ў суд, дзе ён "атрымаў" свае 30 мільёнаў як адзін з заяўнікаў. Таксама былі затрыманы два маладафронтаўцы: Цімафей Дранчук і Віталь Умрэйка. Умрэйка правёў ноч у СІЗО, а з раніцы яго павезьлі ў суд. Суд быў перанесены на некалькі дзён, і нарэшце сп.Умрэйка атрымаў 230 тысяч штрафу. Цімафею у пратаколе напісалі *"зьнявага чалавечай годнасьці прэзыдэнта РБ лукашэнка а.р."* і гадзін праз 5 завезьлі дахаты. Дарэчы, на працягу двух месяцаў былі асуджаныя яшчэ трое заяўнікаў 27 ліпеня - сп.Статкевіч і сп.Асташынскі (30 мільёнаў) і Юрась Беленькі(10 сутак).








**30 жніўня** на менскай плошчы Бангалор адбыўся мітынг у абарону свабоды




прэсы. Мітынгу папярэднічала шэсьце журналістаў незалежных выданьняў, якія прайшлі да плошчы Бангалор у паласатых арыштанцкіх робах. Такое адзеньне было абрана дзеля салідарнасьці з Паўлам Шараметам, якога насуперак дыпляматычным захадам розных узроўняў усё яшчэ трымалі за кратамі. На мітынгу паэт Славамір Адамовіч, які правёў у СІЗО 9 месяцаў за свой верш "Убей президента", дэманстратыўна зашыў сабе рот, пратэстуючы супроць уціску незалежнай прэсы ў нашай краіне. Сябры "Маладога Фронту" перадалі маці Паўла Шарамета больш за 10 тысячаў подпісаў, сабраных пад патрабаваньнем вызваленьня карэспандэнта ГРТ.

**7 верасьня** шэсьцем і мітынгам адзначылі Дзень беларускай вайсковай славы прыхільнікі БНФ ды іншых апазыцыйных партыяў і рухаў. Сабраўшыся на плошчы Якуба Коласа, людзі накіраваліся да Нацыянальнага тэатру опэры й балету, каля якога і адбыўся мітынг і мініяцюрная інсцэніроўка бітвы пад Воршай 1514 году. На мітынгу было паведамлена пра ўтварэньне "Маладога фронту" як самастойнай арганізацыі. Акцыя праводзілася з дазволу Мінгарвыканкаму, таму ніякіх сутычак з ментамі не назіралася.



**Падрыхтавала**
**Вольга Анцыповіч**




Беларускі Гуманітарны Фонд "Наша Ніва" стварае архіў беларускае рок-музыкі, які бачыць сваёй мэтай збор матар'ялаў і даследваньне сучаснае незалежнае музычнае традыцыі ў Беларусі. Архіў зьбірае: старыя, рарытэтныя, аўдыя-відэаматар'ялы, друкаваную прадукцыю.
*Малады Фронт дапамагае "Нашай Ніве".*
Зьвяртацца на адрэсу: г.Менск, праспэкт Ракасоўскага, д.60, корпус 1, кв.299, Іна Грэбень альбо па тэлефоне (017) 249-60-67.

Газэта "Наша Ніва", натуралёва, калі не браць пад увагу "Маладзёвы весьнік" - лепшая беларуская газэта. Кожнай суполцы Маладога Фронту пажадана, апроч Весьніка, выпісваць хаця б адзін асобнік "Нашай Нівы".





**_27 верасьня 1997 года у Менску на першае паседжаньне зьехаліся сябры Цэнтральнае Рады "Маладога Фронту": прадстаўнікі рэгіянальных суполак, грамадзкіх аб'яднаньняў дый менскае маладзёвае фракцыі._**



Адкрыў паседжаньне сваім выступам сустаршыня "Маладога Фронту" Сяржук Паўленка, які асноўную частку свайго дакладу прысьвяціў арганізацыйным пытаньням. Ён прапанаваў распачаць шырокую рэклямовую кампанію "Маладога Фронту" па ўсіх кутках Беларусі, асабліва ў буйных гарадох, падкрэсьліў важнасьць арганізацыі спартовых мерапрыем-стваў, якія б спрыялі найбольшаму прыцягненьню моладзі ў нашыя асяродкі. У выступе было паказана на значнасьць наладжваньня сэмінараў дзеля ўдасканаленьня кампэтэнцыі рэгіянальных лідараў і неабходнасьць уводзінаў добраахвотнага прыняцьця "прысягі маладафронтаўца".

Наступным прамаўляў менскі сустаршыня "Маладога Фронту" Павал Севярынец, які каротка агледзеў пэрыяд, што мінуў пасьля Устаноўчага Сойму і пералічыў асноўныя справы менскае фракцыі. Павал прывёў галоўныя задачы "Маладога Фронту" на бліжэйшы час і падкрэсьліў, што цяпер "Малады Фронт" мусіць скіроўваць усе свае намаганьні на хутчэйшае вызваленьне нашых палітычных вязьняў з Жодзінскага СІЗО. Вадзім Лабковіч і Аляксей Шыдлоўскі вельмі мужна пераносяць умовы, у якіх яны апынуліся, Аляксей ужо другі раз абвяшчае галадоўку, бо ў першы раз яго прымусілі ад яе адмовіцца, вельмі жорстка зьбіваючы на допытах. Была прынятая ухвала, дзе "Малады Фронт" патрабуе неадкладнага вызваленьня "вязьняў сумленьня" і спыненьня крымінальных справаў. Нажаль, ня здолеў прысутнічаць на першае радзе магілеўскі сустаршыня - Алесь Асіпцоў. Зрэшты, прычына ў Алеся была найпаважная - днямі ў яго нарадзілася дачка. Віншуем!

Галоўным пытаньнем, якое павінна была разгледзець Цэнтральная Рада "Маладога Фронту", быў яе рэглямант дый склад Управы МФ. Пасьля двухгадзіннага, досыць прыдзірлівага, абмеркаваньня рэглямант Рады быў, нарэшце, зацьверджаны. Канцэпцыя падзелу функцыяў адзьдзелаў Управы была распрацаваная Паўлам Севярынцам і ўзгодненая з кіраўнікамі камісіяў менскае фракцыі "Маладога Фронту".У выніку непрацяглае дыскусіі Цэнтральная Рада "Маладога Фронту" зацьвердзіла папярэдні склад Управы.

У адзьдзеле структураў Андрэй Пятроў будзе займацца кадравымі пытаньнямі, канцылярыяй і агульнай каардынацыяй, Валяньцін Стэфановіч - зьбіраць менскія раённыя рады, Юрась Губарэвіч - курыраваць працу ў рэгіёнах. У патрыятычна-спартовым адзьдзеле Яўген Скочка мусіць выконваць функцыі каардынатара. Лявон Васючэнка - кіраваць дружынаю "Маладога Фронту", Усевалад Сіняк - працаваць над стварэньнем футбольнага фан-клюбу "Маладога Фронту", разам з Алесем Мішчанковым спрабаваць наладжваць сэкцыі ў іншых спартовых відах. Аддзел навукі, культуры й адукацыі пад кіраўніцтвам Паўла Севярынца ўжо зараз праводзіць, бадай, самую актыўную працу, бо Нацыянальнае адраджэньне глыбока ўкарэніцца толькі шляхам культуровае прапаганды сярод моладзі. Вольга Анцыповіч мусіць трымаць абавязкі канцлера аддзела, Віталь Супрановіч - нястомна арганізоўваць музычныя фэсты й канцэрты з удзелам рокавых беларускіх гуртоў і бардаў, Алена Хадасевіч - наладжваць выступы агітбрыгадаў "Маладога Адраджэньня" па школках і ВНУ.

Каардынацыйна-прваахоўны адзьдзел дый адзьдзел камунікацыяў яшчэ не канчаткова акрэсьленыя ў падзеле задачаў і адказнасьці. Аднак ужо цяпер вядома, што ў бліжэйшыя паўгады выконваць абавязкі кіраўніка адзьдзелу камунікацыяў будзе Аліна Бельская. Яна ж адначасна мусіць адказваць за кантакты з грамадзкімі й палітычнымі арганізацыямі Беларусі. Аляксей Чарняеў каардынуе працу кампутарова-аналітычнае камісіі. Мікола Пачкаеў мае ачольваць увесь адзьдзел камунікацыяў. Толькі камісія замежных сувязяў яшчэ ня мае свайго сталага куратара, але ў недалёкім часе спадзяецца яго прыдбаць.

Таксама Цэнтральная Рада дабрала сваіх прадстаўнікоў у Сойм БНФ. Да Міколы Пачкаева ды Паўла Севярынца далучыліся Яўген Скочка, Сяржук Паўленка і Алесь Асіпцоў.

На гэтым Цэнтральная Рада "Маладога Фронту" скончыла агляд пытаньняў, вынесеных на абмеркаваньне свайго першага сходу. Наступнае паседжаньне Цэнтральнае Рады было вырашана правесьці 15 лістапада.

***Раман Кавальчук***

**Малады Фронт мае пакеты тэхналёгіяў Адраджэньня - "Зборы Беларушчыны" (тэкстоўкі конкурсаў, брэйн-рынгаў, віктарынаў; тэсты, сьпеўнікі, партрэты, тэарэтычныя распрацоўкі, сьпісы кнігаў ды касэтаў). Зьвяртацца штопанядзелак, штачацьвер увечары на тэлефон 233-50-12 да Паўла Севярынца.**

**Малады Фронт фармуе культурніцкія агітбрыгады для правядзеньня шоў беларушчыны ў школках. Патрэбныя: вядучыя, знаўцы беларускае музыкі, ды-джэі. У чацьвер, а 18.00 - на Управе БНФ (Варвашэні, 8)**








**Конкурс карыкатураў на прызы культурніцкай камісіі "Маладога Фронту" працягваецца. Сёньня мы друкуем першую карыкатуру, якую нам даслаў навучэнец 4-га курса Беларускага гуманітарнага ліцэя Віктар Мухін. Як было абяцана, аўтары атрымаюць шмат прызоў, але хто будзе пераможцам - пакажа час. Дасылайце свае карыкатуры на адрэсу: г. Менск, 220005, вул.Варвашэні, 8, штаб-кватэра БНФ (Цімафею Дранчуку). Таксама мы з задавальненьнем надрукуем ваш артыкул, красворд, любы твор у нашым весьніку. Чакаем!**

## ПРЫВАТНЫЯ АБ`ЯВЫ

Ты чуў калі-небудзь пра кампутарную гульню, у якой можна спакойна забіць прэзідэнта краіны і не патрапіць нават пад дэкрэт №5? **Цяпер ты можаш набыць гэтую гульню!** Табе трэба проста даслаць ліст са сваімі каардынатамі на адрэсу: Менск, Варвашэні, 8 (у Маладзёвы весьнік)

Усе, хто жадае набыць відэакасэту з фільмам "Звычайны прэзідэнт" ці аўдыёкасэту з запісам любімых беларускіх гуртоў, дасылайце лісты на адрэсу: г.Менск, праспэкт Ракасоўскага, д.60, корпус 1, кв.299 (Іне Грэбень) альбо кантактуйце па тэлефоне (017) 249-60-67

Калі ты хочаш набыць НАШ беларускі бел-чырвона-белы сьцяг - заходзь у штаб-кватэру БНФ па адрэсе: вул.Варвашэні, 8 альбо тэлефануй (017) 233-50-12

Маладзёвы весьнік

**Выходзіць з 1997 года**
**Заснавальнік** "Малады фронт"
**Адказны за макет і вёрстку** Цімафей Дранчук
**Адказны за нумар** Цімафей Дранчук
**Стыліст** Аляксей Чарняеў
**Рэдкалегія:** Павал Севярынец, Сяржук Паўленка, Алесь Асіпцоў, Яўген Скочка, Валянцін Стэфановіч, Аляксей Шэін
**Наклад** 199 асобнікаў
**Тэл.\факс для кантактаў** --- 2-33-50-12
*Адказнасьць за матар'ял нясе аўтар*
*Спасылка на "Маладзёвы весьнік" пры перадруку абавязковая*

*Вялікі дзякуй за фотаздымкі газэце "Народная Воля", газэце "СВАБОДА", сп. Кармілкіну, сп. Чырыку*